**СОНЦА:**

**Усход, заход, даўжыня дня:**
**Мінск — 6.47, 17.01, 10.14;**
**Віцебск — 6.40, 16.48, 10.08;**
**Магілёў — 6.37, 16.50, 10.13;**
**Гомель — 6.33, 16.48, 10.15;**
**Ґродна — 7.04, 17.14, 10.10;**
**Брэст — 7.00, 17.20, 10.20.**

**МЕСЯЦ:**

**Апошняя квадра 19 кастрычніка**

**ІМЯНІНЫ**

**Пелагеі, Таісы, Урсулы.**



# ЗВЯЗДА

21 КАСТРЫЧНІКА 1992 г. серада, № 212 (21990).



● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

## РОЗГАЛАС

### ПАКУЛЬ МІНАЎТАТРАНС ДУМАЕ...

**Увядзенне свабодных цэн на нафту і нафтапрадукты ў Расіі пацягнула за сабой падаражанне бензіну і дызпаліва ў нашай рэспубліцы. Галоўны эканаміст аб'яднання «Мінскпасажыраўтатранс» У. Новік расказвае:**

— З 9 кастрычніка мы ўжо разлічваемся за паліва па новых цэнах. Так, адна тона бензіну А-76 каштуе 18.900 рублёў, дызпаліва — 16.600 рублёў. Розніцу ў цэнах мы вымушаны пакрываць са сваёй кішэні (а гэта 3 мільёны рублёў штомесячна), з-за чаго не маем магчымасці выплаціць зарплату. Міністру Бародзічу намі было прапанавана перавесці разлікі на рэальныя цэны. Для гэтага трэба, каб праезд у гарадскім транспарце каштаваў не 1 рубель, а 2-3. У міжгароднім—1 рубель за кіламетр шляху плюс 10 капеек, калі аўтобус мяккі.

**Анатоль РАМАНОВІЧ.**

### «ФІРМЕННАЯ ПОМПА» ДЗЯРЖКАМНАФТАПРАДУКТА

**Паводле матэрыялаў кіраўніцтва па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю Камітэта дзяржбяспекі і УБЭЗ МУС Беларусі, пракуратурай узбуджана крымінальная справа ў адносінах да П., генеральнага дырэктара аднаго з сумесных прадпрыемстваў Мінска.**

У ходзе следчых дзеянняў, якія праводзіліся сумесна з КДБ і МУС, устаноўлена, што пры дзейсным удзеле П., не без дапамогі асобных службовых асоб Дзяржкамнафтапрадукта і іншых дзяржаўных структур, за межы рэспублікі вывезена дызельнага паліва на суму каля 2,8 мільёна амерыканскіх долараў.

Аб законнасці паходжання канфіскаваных па справе 2 мільёнаў рублёў, больш 10 тысяч долараў ЗША, аўдыёвідэаапаратуры і іншых матэрыяльных каштоўнасцей на значную суму адкажа следства.

А вось абяцанага фірмай «бартэру» на заходнія тавары народнага спажывання народ, відаць, і не дачакаецца. Ва ўсякім разе, «фірменная помпа», якая больш за паўгода ўзмоцнена пампавала дэфіцытнейшы энерганосьбіт, аказалася аднабаковага дзеяння—«туды». Але дзеля аб'ектыўнасці трэба адзначыць: штосьці, акрамя ўказанага канфіскаванага дабра, прыбыло і «адтуль» — за гэты ж тэрмін кіруючы састаў СП паспеў перасесці з «устарэлых» «Вольва» ў новыя «Мерседэсы».

**Падраздзяленне грамадскіх сувязей КДБ.**

### РАСІЙСКА-ПОЛЬСКІ РАДЫЕАКТЫЎНЫ СЛОІК

Камітэтам па дзяржбяспецы Рэспублікі Беларусь у ходзе праводзімых сумесна з Міністэрствам бяспекі Расійскай Федэрацыі аператыўна-пошукавых мерапрыемстваў па прадухіленню незаконнага вывазу за мяжу радыеактыўных матэрыялаў на кватэры ў жыхара г. Брэста О. знойдзены і ва ўстаноўленым законам парадку канфіскаваны кантэйнер з радыёактыўным рэчывам, які захоўваўся ў слоіку. Пракуратурай г. Брэста па гэтаму факту паводле арт. 211 заўв. I УК РБ (незаконнае набыццё, захоўванне і выкарыстанне, перадача ці разбурэнне радыеактыўных матэрыялаў) узбуджана крымінальная справа.

Пры знешнім аглядзе слоіка з кантэйнерам вагой каля двух кілаграмаў спецыялістамі-радыёлагамі зафіксаваны ўзровень радыяцыі ў межах 500—700 мікрарэнтген, г. зн. перавышаючы натуральны фон у 25—30 разоў.

Па падазрэнню ў дачыненні да ўчыненага злачынства затрыманы двое грамадзян Расійскай Федэрацыі і трое грамадзян Рэспублікі Польшча.

Вядзецца следства.

**Падраздзяленне грамадскіх сувязей КДБ Рэспублікі Беларусь.**

### Крадзеж узрыўчаткі ў планы камандзіра часці не ўваходзіў

**80 кілаграмаў трацілу знікла са склада воінскай часці пад Мінскам.**

**Прапажа ўзрыўчаткі са склада гвардзейскага палка выклікала вялікі перапалох. Расследаваннем занялася следчая група асобага аддзела пры КДБ рэспублікі. Ужо праз некалькі дзён палавіну знікшага трацілу ўдалося знайсці, а паралельна сышчыкі знайшлі таксама ўкрадзеныя раней патроны, акумулятарныя батарэі, снарад ад 122-міліметровай зброі і выбуховыя пакеты. Па інфармацыі следчай групы, галоўныя дзеючыя асобы гісторыі — лейтэнант і старшы лейтэнант, якія праходзілі службу ў часці. А ўсяго пад падазрэнне трапіла каля ста чалавек. Па словах камандзіра часці палкоўніка Чыжа, гэта быў «незапланаваны крадзеж». Другой інфармацыі ад камандзіра гвардзейцаў журналістам, якія «раскапалі» гэту навіну, атрымаць не ўдалося.**

### Філіялы растуць як грыбы

СМАРГОНЬ. Трэцім пунктам на карце вобласці (следам за абласным цэнтрам і Лідай), дзе адкрыўся факультэт давузаўскай падрыхтоўкі пры Гродзенскім дзяржаўным універсітэце, стаў гэты буйны прамысловы цэнтр. Адкрыццё факультэта дапаможа наблізіць час атрымання студэнцкага білета для многіх юных талентаў Смаргоншчыны. У перспектыве — адкрыццё новых аналагічных філіялаў у Ваўкавыску і Навагрудку.

### Улада мясцовая— пытанні дзяржаўныя

17—18 кастрычніка ў Мінску працавала II Рэспубліканская канферэнцыя дэпутатаў мясцовых Саветаў па праблемах рэформы сістэмы мясцовых органаў кіравання. У рабоце канферэнцыі ўдзельнічалі вучоныя, супрацоўнікі Савета Міністраў, сакратарыята ВС Беларусі, дэпутаты. У выніку прынята рэзалюцыя з трох пунктаў, якая з унесенымі папраўкамі падтрымлівае пяты раздзел праекта Канстытуцыі РБ «Мясцовае самакіраванне», а таксама праект канцэпцыі рэформы сістэмы мясцовай улады.

Канферэнцыя таксама падтрымала патрабаванне аб правядзенні ўсебеларускага рэферэндуму. Прынятая рэзалюцыя будзе перададзена ў Вярхоўны Савет рэспублікі.

**В. ГРЫЦУК.**

### ЛАСІНАЯ КАМЕРЦЫЯ

**У лясах Беларусі сёння жыве некалькі дзесяткаў тысяч ласёў. Таму, улічваючы іх невялікую колькасць, з 1974 года паляванне на іх дазволена толькі па ліцэнзіі, і адстрэл павінен складаць не больш за 5 тысяч галоў у год.**

**Але цяперашнія цяжкасці прымусілі нашы паляўнічыя гаспадаркі зірнуць на Захад. Улічваючы вялікі попыт на міжнародным рынку заходніх гурманаў на ласінае мяса, кіраўнікі паляўнічых гаспадарак пайшлі на арганізацыю камерцыйных паляванняў для замежных гасцей.**

**У выніку менш чым за год адстрэлена звыш 80 ласёў, аленяў і кабаноў. І хоць ліцэнзія на адстрэл, напрыклад, аднаго лася-самца каштуе даволі дорага — каля 4 тысяч нямецкіх марак, жадаючых пастраляць хапае. Відаць, цэны задавальняюць замежных паляўнічых, як, дарэчы, і нашых работнікаў паляўнічых гаспадарак.**

**Цікава, што платы, атрыманай за продаж адной ліцэнзіі, дастаткова для таго, каб на працягу года забяспечваць усім неабходным адну гаспадарку.**

ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

### «СПАКОЙ НАМ ВЕЛЬМІ ДАРАГІ...»

**Несумненна, важнейшай падзеяй у грамадска-палітычным жыцці краіны стала работа сесіі парламента, якая пачалася ўчора. Каля 100 пытанняў уключана ў парадак дня — і амаль кожнае з іх жыццёва важнае. Палітычныя партыі і рухі розных напрамкаў правялі мітынгі, дзе скарэкціравалі свае пазіцыі, плошча Незалежнасці зноў становіцца месцам высвятлення адносін.**

**Учора з раніцы мы запыталі ў мінчан і жыхароў сталіцы, чаго яны чакаюць ад сесіі.**

**Міхаіл МАСЛАКОЎ, супрацоўнік Акадэміі навук Беларусі,** лічыць, што галоўнае пытанне — прыняцце Канстытуцыі. У новага праекта ёсць многа прыхільнікаў, але нямала і праціўнікаў. Апошніх я адношу, кажа ён, да людзей з учарашняга дня, якія яшчэ жывуць успамінамі аб былой імперыі, якім не падабаецца наша незалежнасць. У паштовай скрынцы я знайшоў лістоўку, выпушчаную Рухам за сацыяльны прагрэс і справядлівасць. «Не прымаць праект Канстытуцыі РБ як недэмакратычны і антынародны»,— напісана ў ёй.— Гэта на іх думку. Але ж праект прайшоў сур'ёзную экспертызу ў айчынных і замежных юрыстаў. Дык які ж ён недэмакратычны? Нам спрабуюць даказаць, што цяпер мы не будзем мець гарантаванага права на працу, жыллё і г. д. Так, у «старой» Канстытуцыі сацыяльныя правы гарантаваныя. Але ці былі яны забяспечаны жыццём? Ці не расцягваліся на 15—20 гадоў чэргі на кватэры, што мы атрымлівалі за рабскую працу? Папулісцкія метады, якімі кіруюцца некаторыя сілы, да дабра не давядуць. Яны патрэбныя ім толькі для набыцця палітычнага капіталу.

**Уладзімір БОНДАРАЎ, інжынер, завод вылічальнай тэхнікі:** — Думаю, што галоўным пытаннем будзе прыняцце рашэння аб рэферэндуме. Апошнім часам сталі многа публікаваць табліц з вынікамі сацыялагічных даследаванняў, дзе рэферэндум па важнасці быццам бы ставіцца ледзь не на апошняе месца. Сапраўды, у нас мноства сацыяльных праблем. Але калі іх не было, а гаварыльня ў парламенце працягваецца ўвесь час. Ведаеце, раней я адназначна стаяў за рэферэндум. І зараз лічу, што гэты састаў Вярхоўнага Савета вычарпаў свае магчымасці. Але паколькі чакаецца прыняцце новай Канстытуцыі, якой прадугледжана стварэнне новага вышэйшага органа ўлады — Сойма са 160 дэпутатаў, то, вядома, нечарговыя выбары павінны быць праведзены датэрмінова, дзесьці ў пачатку вясны. Гэтым мы зберажом і час, і сродкі, і, магчыма, пазбегнем напалу абстаноўкі ў грамадстве.

**Сяргей ЯРОМЕНКА, настаўнік інфарматыкі:** — Я не хацеў бы выдзяляць ні адно з пытанняў — усе яны аднолькава важныя. Мяне непакоіць іншае — спроба часткі дэпутатаў, якія абапіраюцца на неакамуністычныя сілы, працягнуць у парадак дня сесіі пытанне аб двухмоўі ў Беларусі. Нам спрабуюць даказаць, што таго патрабуе сітуацыя, якая склалася ў рэспубліцы. Але ж гэта не дасягненне нашае, а бяда, і не ганарыцца такім становішчам трэба, а выпраўляць яго, і як найхутчэй. Відаць, камусьці не даспадобы тыя стабільнасць і спакой у нашай рэспубліцы, камусьці трэба раскалоць грамадства. Дзяржаўнасць беларускай мовы за тры гады да гэтага не давяла, бо рабілася ўсё разважліва, без спешкі. А вось наданне статуса дзяржаўнай рускай мове выкліча рэзкі пратэст яе праціўнікаў. Дзе гарантыі, што людзей не выведуць на вуліцы, дзе гарантыі, што гэта закончыцца толькі мітынгамі і пікетамі? Спакой і лад нам вельмі дарагія. Распальваць іскру небяспечна.

**Падрыхтаваў Анатоль СЛАНЕЎСКІ.**

## ПАРЛАМЕНТ ДУМАЕ ПРА БЕЛАРУСЬ?

Доўга, ажно некалькі месяцаў, чакалі ўсе мы гэтай сесіі. Пайшоўшы ў надзвычай складаны і супярэчлівы час на працяглыя парламенцкія канікулы, народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь пакінулі ўсіх нас сам-насам з мноствам праблем і нявырашаных пытанняў. Якімі канкрэтна, — аб гэтым размова наперадзе, а пакуль што нагадаю толькі два з іх: збядненне народа і ўсенародны рэферэндум. Гэта толькі на першы погляд яны — розныя, а, калі задумацца — звязаны паміж сабой самым цесным чынам, вынікаюць адзін з другога...

Так, жыць становіцца ўсё складаней і складаней. І, тым не менш, да сваіх рабочых месцаў дэпутаты прайшлі без эксцэсаў, хоць небяспека трапіць і ў акружэнне незадаволеных выбаршчыкаў, і пад агонь вострых, непрыемных лозунгаў і плакатаў у паветры, як кажуць, вісела. Але... Людзі ўчора пайшлі на працу, а не на плошчу Незалежнасці. І толькі два транспаранты «ўпрыгожвалі» гэту плошчу... Затое, якія — трапныя і з сэнсам: «Як адпачылі? (Зварот адносіўся, вядома ж, не да нас, журналістаў, а да іх, народных выбраннікаў — заўвага **А. М.**). Можа, яшчэ?» і «Рэферэндум — пытанне № 1».

Адпачываць — не працаваць, — гэта аксіёма вядома, бадай, кожнаму. А папрацаваць дэпутатам на гэтай сесіі давядзецца — у поўным сэнсе слова — больш чым дастаткова. Толькі б хапіла ў іх вытрымкі, аргументаў, мужнасці, цвярозага і разважлівага сэнсу, рэалізму жыцця...

Ужо з першых хвілін сесія пайшла па, так бы мовіць, новаму сцэнарыю: Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч адмовіўся ад уступнага слова. Сітуацыя вам і так добра знаёма, зазначыў ён, а тое, што маю сказаць, скажу пазней... Інтрыга? Так. Але вось перайшлі дэпутаты да абмеркавання парадку дня, і ў зале, дзе праходзяць пасяджэнні парламента, стала горача.

Тон, праўда спакойным голасам, задаў старшыня Магілёўскага аблвыканкома Мікалай Грынёў. Ён прапанаваў у першую чаргу разгледзець пытанні, якія хвалююць сёння ўсіх і кожнага: аб мінімальнай зарплаце, аб дзейнасці Савета Міністраў рэспублікі і аб карэкціроўцы дзяржаўнага бюджэту Беларусі. С. Шушкевіч неяк прапусціў прапанову міма вушэй... І тады ў парадак дня пасыпаліся дапаўненні.

Ажно пяць пытанняў прапанаваў дапоўніць лідэр апазіцыі БНФ Зянон Пазьняк: тут і аб дэманапалізацыі сродкаў масавай інфармацыі, і аб справаздачы кіраўніцтва КДБ, і аб невыкананні Саветам Міністраў законаў РБ... Дэпутат Г. Карпенка ўнёс пажаданне паслухаць урад аб... невыкананні Закона аб адукацыі і пачаць працу над Законам аб выбарах у Вярхоўны Савет РБ; а М. Качан запатрабаваў адмяніць пастанову ВС рэспублікі аб часовым прыпыненні дзейнасці КПСС—КПБ на тэрыторыі Беларусі... Цэлы пакет — ажно сем (!) прапаноў вынес І. Герасюк; а І. Авін паставіў пытанне яшчэ больш катэгарычна: аб «Народнай газеце» і яе рэдактары... Пачуць з вуснаў в. а. Генеральнага пракурора справаздачу аб карупцыі пажадала Г. Сямдзянава; а яе калега па апазіцыі Л. Зданевіч — справаздачу Мінсельгаспрода аб канцэпцыі зямельнай рэформы... Калі яшчэ чытач не стаміўся, нагадаю: слушныя, а часам і не вельмі дапаўненні ў парадак дня выносілі таксама У. Станкевіч, П. Садоўскі, А. Трусаў, В. Кучынскі, В. Ганчар, А. Даўлюд, С. Антончык, Г. Казлоў, А. Лукашэнка, Л. Баршчэўскі, Л. Тарасенка. А цяпер уявіце сабе, што атрымалася б, калі ўсё гэта прайшло?!

Не, аднак прайшло не ўсё— «яно» і прайсці, прынамсі, не магло. І справа не толькі ў тым, што, як кажуць, колькі чалавек — столькі і думак... Проста вельмі часта выносілі народныя дэпутаты праблемы дробязныя, прыватныя, тыя, над якімі ўжо працуюць адпаведныя структуры заканадаўчай і выканаўчай улад.

Амаль 70 пытанняў папярэдняй павесткі прайшлі пры галасаванні гладка. А вось пытанне аб сувязі ў Рэспубліцы Беларусь выклікала рознагалоссі. Урад папрасіў адкласці яго: маўляў, праблема няпростая, асабліва — ў плане фінансавання. Камісія ж Вярхоўнага

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**




### ВЯРХОЎНЫ САВЕТ: КОЛЬКІ ФРАКЦЫЙ— СТОЛЬКІ ПАЛІТЫЧНЫХ ПЛАТФОРМ

**У першы дзень работы сесіі Вярхоўнага Савета мы папрасілі прадстаўнікоў асноўных парламенцкіх фракцый падзяліцца меркаваннямі аб праблемах, якія будуць разглядаць дэпутаты ў бліжэйшыя месяцы, аб узаемаадносінах розных палітычных груп унутры парламента, аб вузлавых пытаннях парадку дня сесіі.**

**Сяргей НАВУМЧЫК, каардынатар апазіцыі БНФ**



— Назавіце хоць бы адну канцэпцыю, заканадаўчую прапанову апазіцыі БНФ (дзяржаўная незалежнасць, беларускае войска, уласная грашовая сістэма) — якія спачатку не падвяргаліся б, выбачайце, аплёўванню з боку парламенцкай большасці за «экстрэмізм» і якія потым не былі б прынятыя як надзённая неабходнасць. Але і гэтыя запозненыя рашэнні з'яўляліся палавінчатымі і недасканалымі, бо адсутнасць прафесіяналізму — тая хранічная хвароба, якая для гэтага парламента ператварылася ў смяротную. Вярхоўны Савет павінен пагадзіцца з гэтым і прызначыць дату рэферэндуму — прычым з той фармулёўкай пытання, за якую выказаліся амаль паўмільёна грамадзян Беларусі.

Наўрад ці апазіцыя ўжо будзе калі-небудзь уносіць у гэты Вярхоўны Савет свае законапраекты, — чым далей, тым больш прыходзім мы да высновы, што працаваць на гэты састаў парламента не мае сэнсу. Тым не менш апазіцыя не адыдзе ад заканатворчай дзейнасці — сумесна з прадстаўнікамі дэмакратычных партый, экспертамі, навукоўцамі мы будзем распрацоўваць канцэпцыі, якія могуць стаць карыснымі для будучага парламента. Натуральна, мы пакідаем за сабой права крытыкі дзеянняў гэтага Савета і сфарміраванага ім урада і пацвярджаем сваё патрабаванне аб прадастаўленні апазіцыі рэгулярнага прамога тэле- і радыёэфіру.

**Міхаіл ЖУКОЎСКІ, член дэпутацкай фракцыі «Саюз»**

— Наша фракцыя будзе адстойваць прыняцце канструктыўных рашэнняў. У першую чаргу — хутчэйшае вырашэнне сацыяльных пытанняў, абарона інтарэсаў пажылых людзей. Будзем галасаваць за неадкладнае павышэнне размеру мінімальнай заработнай платы і пенсій. Ставім таксама на мэце дабівацца ўнясення змен у Кодэкс аб працы, асабліва што датычыцца 18 і 33 артыкулаў, якія сур'ёзным чынам ушчамляюць правы людзей, што да-



сягнулі пенсіённага ўзросту і якіх адміністрацыя можа ў любы час звольніць з работы.

Неабходна таксама прыняць шэраг заканадаўчых актаў па сацыяльнай абароне ветэранаў Узброеных Сіл, іх пенсіённаму забеспячэнню, працаўладкаванню, магчымасці атрымання жылля.

Важна таксама як мага хутчэй прыняць новую Канстытуцыю. Пагаджаючыся ў асноўным з праектам, прапанаваным Канстытуцыйнай камісіяй, лічым, што патрабуе істотнай дапрацоўкі шэраг артыкулаў. Асабліва гэта датычыцца пытанняў сацыяльнага забеспячэння, аховы здароўя, забеспячэння жыллём.

**Генадзь КАРПЕНКА, старшыня Партыі народнай згоды Рэспублікі Беларусь**

— Да дзесятай сесіі Вярхоўнага Савета Партыя народнай згоды рыхтавалася вельмі грунтоўна. Была створана рабочая група, якая распрацоўвала асобныя артыкулы праекта Канстытуцыі і іншых дакументаў. Выпрацавалі таксама тактыку паводзін непасрэдна на сесіі. Дарэчы, зазначу: сёння сярод народных выбранікаў каля 20 чалавек гатовы падтрымаць Партыю народнай згоды.



З чым мы выходзім на сесію? Па-першае, падтрымліваем ідэю правядзення ў рэспубліцы ўсенароднага рэферэндума. Наша мадэль выхаду на рэферэндум і правядзення новых выбараў заключаецца ў разглядзе ў першую чаргу праекта новай Канстытуцыі, Закона аб выбарах у Вярхоўны Савет рэспублікі. Дарэчы, у праекце парадку дня сесіі Вярхоўны Савет разгледзець гэты закон не збіраўся, аднак па прапанове Партыі народнай згоды пытанне ўключана, і такім чынам наша работа была не марнай.

Далей. На пасяджэнні выканкома партыі мы разгледзелі сітуацыю з ходам выканання Саветам Міністраў Закона аб адукацыі. Партыя прыняла зварот да Кантрольнай палаты рэспублікі з патрабаваннем прыняць адпаведныя меры, паколькі закон практычна не выконваецца. Гэту ж прапанову— разгледзець праблему на сесіі — мы таксама вынеслі на сесію, і яна, як вядома, прайшла. Такім чынам, першыя крокі практычнай дзейнасці фракцыі Партыі народнай згоды аказаліся ўдалымі.

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ, каардынатар фракцыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады**



— Дэпутацкая фракцыя ад Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады аб'ядноўвае 15 чалавек. Зыходзячы з асноўных мэт нашай партыі, будзем усяляк садзейнічаць правядзенню рэформаў, а таксама сацыяльнай абароне насельніцтва. У цэнтр увагі ставім прыняцце новай Канстытуцыі, забеспячэнне права на валоданне зямлёй, прыватызацыю дзяржаўнай маёмасці...

У плане палітычным — хутчэйшае станаўленне прававой дзяржавы. Патрабуе карэннай рэфармацыі Крымінальны кодэкс, судаводства. Вольны чалавек павінен жыць у вольным грамадстве. Пры гэтым наша партыя будзе ўлічваць лепшыя дасягненні сацыял-дэмакратыі свету.

Важна дабіцца планамернасці ажыццяўлення рэформаў, пры гэтым не зніжаючы жыццёвага ўзроўню людзей, якія і так на мяжы беднасці. У горшым стане цяпер пенсіянеры, інваліды, студэнты. Таму неабходна неадкладна прыняць закон аб мінімальнай заработнай плаце, аб дзяржаўнай дапамозе сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей... Па асобных пытаннях наша фракцыя будзе ўзаемадзейнічаць з прафсаюзамі, асабліва што датычыцца сацыяльнай абароны насельніцтва.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**






Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ і Югена ПЯСЕЦКАГА.

## РАДЫЁ ФАКТ

На Чарнобыльскай атамнай станцыі ўведзены ў рабочы рэжым рэактар трэцяга энергаблока, які быў спынены ў сувязі з надзвычайным становішчам на Ленінградскай АЭС. «Радыёфакт» звязаўся з горадам Прыпяць і даведаўся, што на рэактары поўнасцю заменены ўсе рэгулюючыя клапаны, непаладкі ў якіх прывялі да спынення аналагічнага энергаблока ў Ленінградзе. Вывесці ж з работы трэці энергаблок Чарнобыльскай станцыі зараз, напярэдадні зімы, нельга.

***

**Працягваецца работа над падрыхтоўкай да падпісання паміж Расіяй і Рэспублікай Беларусь дагавора аб каардынацыі дзейнасці ў ваеннай галіне і пагаднення аб стратэгічных сілах, якія часова знаходзяцца на тэрыторыі нашай рэспублікі. У Маскве адбылося пасяджэнне рабочай групы па падрыхтоўцы гэтых дакументаў. Чарговую сустрэчу намечана правесці ў Мінску 3—4 лістапада.**

***

Больш як палавіна прамысловых прадпрыемстваў рэспублікі знізілі сёлета аб'ёмы вытворчасці. Страты склалі многія мільярды рублёў. Паводле прагнозаў, да канца года ў прамысловасці, навуцы, будаўніцтве і на транспарце будуць звольнены яшчэ каля 50 тысяч чалавек. У беларускім грамадстве адчуваецца перадналвальнічнае напружанне. А палітолагі сцвярджаюць, што рост беспрацоўя больш чым на 12 працэнтаў можа завяршыцца сацыяльным выбухам.

***

**Імпартны спірт і іншыя алкагольныя напіткі ў бліжэйшы час падаражэюць у Расіі ў чатыры разы. Такі скачок цэн адбудзецца ўслед за павелічэннем мытных тарыфаў на замежнае спіртное. Яны ўзрастуць да 100 працэнтаў. Сёння на спірт, вермут яны складаюць 25 працэнтаў, на вінаградныя віны — 20 працэнтаў.**

***

У Арзамасе-16 і Чэлябінску-70 адкрыліся музеі ядзернай зброі. Аказваецца, яны існавалі ўжо дзесяткі гадоў, але мала хто ведаў пра гэта. Сярод самых цікавых экспанатаў — першая атамная бомба, якая была пастаўлена на ўзбраенне Савецкай Арміі. Называлі яе «Тацяна».

**ДА КАНЦА ПАДПІСКІ ЗАСТАЛОСЯ 11 ДЗЁН. ІНДЭКС «ЗВЯЗДЫ» — 63850. ПАДПІСНАЯ ЦАНА НА ПАЎГОДА — 120 РУБЛЁЎ.**

# РОЗГАЛАС

## ПАПРАЦАВАЎ ЗА ЦЭЛАЕ ВЕДАМСТВА. А МОЖА, І ЗА ЎРАД...

Праграмы складаюць не толькі ва ўрадзе ды розных ведамствах. Лаўры праграматворчай дзейнасці, відаць, не супраць зведаць і радавыя грамадзяне. Чытач «Звязды» В. Шчукін даслаў у газету ўласнаручна складзены праект праграмы ўрада па пераадоленню ў рэспубліцы эканамічнага і экалагічнага крызісу. Шмат якія пункты надзвычай нават актуальныя. Асобныя — «выкараненне дзяржаўнай манаполіі на вінна-гарэлачныя вырабы» — відаць, прыйдуцца не даспадобы ўраду...

А ўвогуле, вось закавыка: чым больш праграм і рэцэптаў — тым глыбей крызіс.

Тым не менш, рэдакцыя накіроўвае памянёны праект па прызначэнню.

## НА ЛЯЧЭННЕ ДА ЗАВАДЧАН?

**Літаральна праз месяц у пасёлку трактарабудаўнікоў адчыніць дзверы новая медыка-санітарная часць МТЗ на 850 наведвальнікаў.**

Цяжка паверыць, але, паводле прагнозаў медыкаў, у бліжэйшы час можа быць на 50 працэнтаў скарочана хірургічная дапамога хворым з-за адсутнасці шыўнога матэрыялу і іншых сродкаў. А аперацыі будуць рабіцца толькі ў экстранных выпадках, калі пацыенту пагражае смерць; на 30 працэнтаў будуць скарочаны самі лячэбныя ўстановы. У такіх умовах, паведаміў на сустрэчы з прафсаюзнымі актывістамі прадпрыемства галоўны ўрач МТЗ Аляксандр Шакуцін, будаўніцтва новай паліклінікі набывае асаблівае значэнне. Яна камплектуецца вядомымі ўрачамі рэспублікі, якія выказалі жаданне тут працаваць. Паліклініка будзе забяспечана сучасным медыцынскім абсталяваннем, якое завод закупіў за мяжой. Урач тут не будзе адчуваць сябе злачынцам, калі з-за недахвату лякарстваў ён не можа дапамагчы хвораму. А дэфіцытныя лекі, якія МТЗ набудзе па бартэру і за валюту, змогуць тут купіць па рэцэпту ўрача ўсе хворыя работнікі трактарнага завода. Такім чынам, тры кіты, на якіх трымаецца медыцына — кадры, лекавыя прэпараты і медыцынскае абсталяванне, — новай заводскай лячэбнай установе забяспечаны.

**Алег ПРАЦЬКО.**

## АХОВА ПРАЦЫ — СПРАВА ЎСЕНАРОДНАЯ

Як вядома, 1992 год абвешчаны годам бяспекі і аховы працы на вытворчасці. У сувязі з гэтым з мэтай узмацнення сацыяльнай абароненасці сем'яў загінуўшых на вытворчасці прэзідыум Савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі сваёй пастановай рэкамендаваў рэспубліканскім і абласным прафсаюзным структурам устанавіць на месцах фонды дапамогі сем'ям загінуўшых і асобам, якія атрымалі калецтвы.

## ШЧЭРБА АД'ЯЗДЖАЕ?

**«Мне не падабаюцца тутэйшыя ўмовы жыцця. Беларусь да гэтага часу не дасягнула ўзроўню іншых краін. Яна падобная на краіну, якая развіваецца. Тут вельмі цяжка што-небудзь купіць. У мяне ёсць машына, але няма бензіну», — сказаў алімпійскі чэмпіён Віталь Шчэрба журналістцы амерыканска-расійскай газеты «Мы» Кэрал Хорнер.**

У перадрукаваным «Известиями» артыкуле гаворыцца: «У гадзінным інтэрв'ю Шчэрба адкрыта расказаў аб тым, чаму пакідае Беларусь, аб падзенні камуністычнага рэжыму і аб сваёй удзячнасці савецкай спартыўнай сістэме».

Віталь Шчэрба абвінаваціў таксама «журналістаў з Расіі» ў наводцы на яго алімпійскую прэмію ў 25 тысяч долараў, якія былі ўкрадзены з яго кватэры, і расказаў аб умовах жыцця ў Мінску: «Дабыванне харчуператварылася ў невырашальную праблему. Пойдзеш у магазін купіць кашулю — кашуль няма. Пойдзеш у гімнастычную залу — там надта холадна для трэніровак, таму што паліва для ацяплення няма».

«Шчэрба захавае сваё беларускае грамадзянства і будзе выступаць у міжнародных спаборніцтвах за сваю краіну. Магчыма, калі-небудзь ён нават і вернецца назад», — суцяшае нас газета «Мы».

**РІД.**

**ДАПАЎНЕННЕ ДА ПАВЕДАМЛЕННЯ ДЗЯРЖАЎНАГА КАМІТЭТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА СТАТЫСТЫЦЫ І АНАЛІЗУ**

## АБ ІНДЭКСЕ СПАЖЫВЕЦКІХ ЦЭН

Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па статыстыцы і аналізу зрабіў разлік змянення спажывецкіх цэн за перыяд з пачатку года зыходзячы з зацверджанай Дзяржкампрацай Рэспублікі Беларусь у чэрвені г. г. структуры мінімальнай «спажывецкай карзінкі» і паведамляе, што ў верасні 1992 года ў параўнанні са снежнем 1991 года індэкс спажывецкіх цэн склаў 978,3 працэнта.

**Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па статыстыцы і аналізу.**

## ПАРТЫЙНЫЯ ЛІДЭРЫ Ў ДЭФІЦЫЦЕ

ТАЛАЧЫН **(Т. Махтадуй).** Не спяшаецца заявіць аб сабе ў раёне былая пераемніца КПСС — Партыя камуністаў Беларусі. Адчуваецца вострая няхватка лідэраў, хоць яшчэ паўтара года назад іх было так многа, што даводзілася выбіраць на альтэрнатыўнай аснове. Сёння ж ніхто не жадае ўваходзіць у аргкамітэт, займацца перарэгістрацыяй сваіх былых членаў. Гэта выклікае абурэнне ў радавых камуністаў, многія з якіх не супраць аднавіць сябе ў кампартыі. Няўжо так крута памяняліся погляды тых, хто ўсенародна з высокіх трыбун заяўляў аб непарушнай вернасці ідэалам камунізму? Большасць былых партыйных функцыянераў схіляецца да думкі не ствараць у раёне ніводнай палітычнай партыі. Тлумная гэта справа. Куды спакайней заняцца бізнесам і камерцыяй.

## ПЕНСІЯНЕРЫ НЕ НА АПОШНІМ МЕСЦЫ

МАЗЫР. Мазыр—горад не пенсіянераў, але яны займаюць не апошняе месца сярод усяго насельніцтва.

У горадзе пражываюць 17 тысяч пенсіянераў. Месячная сума выплат ім пенсій складае 2,5 мільёна рублёў.

З 1 кастрычніка 1992 года 65 адзінокім састарэлым гараджанам дастаўляюцца бясплатныя абеды за кошт сродкаў сацыяльнай абароны. За 9 месяцаў бягучага года па пуцёўках гарсабеса адпачылі і папраўлі сваё здароўе ў санаторыях і дамах адпачынку 42 чалавекі. 15 інвалідам бясплатна выдзелены аўтамабілі.

## ПРЫГАРАДНЫЯ РЭЙСЫ... САМАЛЁТАЎ

ГРОДНА. Да традыцыйных аўтобуса, цягніка і маршрутнага таксі як сродкаў транспарту ў бок Беластока цяпер можна дадаць яшчэ адзін — паміж суседнімі гарадамі пракладзена авіялінія. Пакуль што гэта быў пробны палёт на самалёце АН-2, але плануецца, што ўжо гэтай восенню рэйсы паміж Гродна і Беластокам стануць рэгулярнымі. Дарэчы, наступным летам кожны дзень будзе ажыццяўляцца па 5 рэйсаў — гродзенскія авіятары ўпэўнены, што праблем з колькасцю пасажыраў не будзе.

**Ю. АЛЯКСЕЕЎ.**

# ПАРЛАМЕНТ ДУМАЕ ПРА БЕЛАРУСЬ?

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Савета настойвала на разглядзе, яе падтрымала і апазіцыя... І калі пытанне паставілася на галасаванне, яно — не прайшло... Тады і задумаліся многія ў зале: раскладка сіл у парламенце — ранейшая.

І яшчэ адзін прыклад з гарачых дэбатаў вакол парадку дня сесіі. Я. Радзецкі прапанаваў разгледзець пытанне аб індэксацыі ўкладаў жыхароў рэспублікі ў ашчадных банках. Прэм'ер-міністр Беларусі В. Кебіч, імкліва накіраваўшыся да мікрафона, паспрабаваў папярэдзіць удар: маўляў, урад прыняў ужо аб гэтым рашэнне і ў дакладзе я скажу ўсё... Ды не тут было: праблема настолькі «хворая», агульнанацыянальная, што 260 народных дэпутатаў усё ж вырашылі, нарэшце, давесці яе да лагічнага завяршэння. І гэта выключна правільна: народ зноў-такі церпіць, а ў суседніх рэспубліках СНД пытанне даўно вырашана.

Спынімся крышку і на «нашай» праблеме — пытанні аб дэманапалізацыі сродкаў масавай інфармацыі. Сутнасць яе абгрунтаваў С. Навумчык: Савет Міністраў, па ягонаму цвёрдаму перакананню, «захапіў» усё, што толькі можна... 8 дэпутатаў вырашылі сказаць наконт гэтага сваё «я». А. Лукашэнка, на наш погляд, быў вельмі справядлівы: а ці манапалізаваў СМ РБ сродкі інфармацыі? «Мы вінаваты ў сітуацыі, — адзначыў Аляксандр Рыгоравіч. — Чаму не запісалі ў пастанове аб бюджэце пункт аб дзяржаўнай падтрымцы прэсы, радыё і тэлебачання?! І тады б Кебіч выконваў яго...» І хоць С. Шушкевіч кінуў рэпліку: маўляў, я не хацеў бы манапольнага валодання прэсай, пытанне аб «дэманапалізацыі» СМІ ў парадак дня не прайшло.

Колькі ж пытанняў будзе разглядацца на гэтай сесіі, мы паведамім у наступным нумары: прапановы дэпутатаў абмяркоўваліся ўчора і на вячэрнім пасяджэнні. Дададзім яшчэ, што шмат ачкоў, гаворачы спартыўнай тэрміналогіяй, набрала ўчора «Народная газета»: спрэчка вакол яе вялася добрыя паўгадзіны, а рэпартаж з сесіі ішоў тым часам у адкрыты эфір. Прычым, іншы раз праблема разглядалася даволі шырока: ад таго, што ідзе наступ на дэмакратычны друк, —да «пажадання» высветліць: ці ёсць у асобных журналістаў... мазгі ў галаве... Нас гэта, прынамсі, не пакрыўдзіла: мы ж не высвятляем, ці ёсць «шэрае рэчыва» ў некаторых народных выбраннікаў.

Сесія стартавала. Наперадзе ў яе — доўгі і цяжкі марафон. Пытальнік у загалоўку мы паставілі не дзеля таго, каб, крый Божа, пакрыўдзіць парламент ці падтрымаць недавер яму. Проста мы хочам зверыць пазіцыі, каб у канцы таго марафона даць на гэта пытанне канкрэтны, аб'ектыўны, рэальны адказ.

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**

## ВЯРХОЎНЫ САВЕТ: КОЛЬКІ ФРАКЦЫЙ—СТОЛЬКІ ПАЛІТЫЧНЫХ ПЛАТФОРМ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).



**Генадзь КАЗЛОЎ, выканаўчы каардынатар дэпутацкага аб'яднання «Беларусь»**

— Галоўная мэта і галоўны прынцып нашага аб'яднання, у якое ўваходзіць больш як сто дэпутатаў, — палітычная згода і палітычная стабільнасць у грамадстве.

Мы будзем дабівацца прадукцыйнай работы Вярхоўнага Савета, адказнага і ўзважанага падыходу пры прыняцці рашэнняў. Дэпутаты аб'яднання «Беларусь» будуць падтрымліваць толькі тыя законапраекты, якія прайшлі папярэднюю кваліфікаваную экспертызу ў камісіях, міністэрствах і ведамствах. Кошт гэтых праектаў для дзяржаўнага бюджэту павінен быць дакладна вызначаны.

Што датычыць праекта Канстытуцыі, то ў сваім звароце да грамадзян і народных дэпутатаў, што апублікаваны ўчора, мы даволі падрабязна выклалі сваю пазіцыю наконт гэтага. Верагодна, прыняўшы праект у другім чытанні, трэба выходзіць на трэцяе, а магчыма—і на чацвёртае чытанне, хоць гэта і не прадугледжана рэгламентам.

Больш таго, па асноўных, канцэптуальных момантах Канстытуцыі варта высветліць думку народа шляхам рэферэндуму.

Пра рэферэндум, які прапануе ініцыятыўная група, — аб датэрміновых выбарах Вярхоўнага Савета. Тут усё пакажа абмеркаванне. Не сакрэт, што членамі ініцыятыўнай групы, якія збіралі подпісы, дапушчана шмат юрыдычных парушэнняў. Акрамя таго, нямала сумненняў у сур'ёзнасці і адказнасці, з якімі падышла Цэнтральная выбарчая камісія да гэтай праблемы.

***

Адсутнасць інфармацыі — таксама інфармацыя. На жаль, вашаму карэспандэнту прыйшлося суцяшацца гэтай, безумоўна, правільнай ісцінай, калі ён паспрабаваў даведацца, што чакаюць ад сесіі камуністы.

Іван Міхайлавіч Каратчэня, на якога ўказвалі як на неафіцыяльнага лідэра камуністаў у Вярхоўным Савеце, быў вельмі сціслым:

— Хто вам сказаў, што ёсць такая фракцыя? Не-не, запісваць не трэба! Гэта я так, у парадку інфармацыі. Пакуль фракцыя не зарэгістравана, гаварыць няма пра што. Рэкамендую звярнуцца да дэпутата Качана.

Я дакладна выканаў рэкамендацыю. Толькі гэта ўсё роўна нічога не дало. М. Ю. Качан быў яшчэ больш лаканічным.

— Ніякіх размоў. Фракцыі яшчэ няма.

Ну што ж, камуністы, трэба адзначыць, заўсёды вызначаліся добра пастаўленай канспірацыяй. Праўда, тут можа ісці гаворка толькі аб сакрэтах полішынеля. Дастаткова выйсці на плошчу Незалежнасці, пахадзіць сярод невялікага натоўпу людзей са сцягамі СССР і БССР, як мэты камуністаў набываюць канкрэтыку. І страчваюць таямнічасць.

— «Капіталізму — дэмакратызацыю, народу — дэбілізацыю!» — такі там ёсць плакацік. Астатнія вытрыманы ў тым жа духу.

— Мы патрабуем бясплатнай адукацыі, бясплатнага медыцынскага абслугоўвання, спынення росту цэн, — растлумачыла жанчына, што прадавала камуністычную прэсу.

— А вашы прадстаўнікі ў парламенце?

— Ну, зразумела, таго ж!

## МІЛЬЁН ЗА ГАДЗІНУ

**Менавіта такой лічбай папярэдне ацэньваюцца страты ад пажару, што адбыўся 19 кастрычніка ў гомельскім інстытуце «Дзяржпраектжылмаш». Як паведамілі ва ўпраўленні пажарнай аховы Беларусі, агонь знішчыў ЭВМ ЕС-10-35, што знаходзілася ў машыннай зале аўтаматычнай сістэмы кіравання вытворчасцю канструктарскага аддзела. Адбылося хуткае задымленне ўсяго чацвёртага паверха будынка інстытута, стварылася рэальная пагроза чалавечым жыццям. Дзякуючы аператыўнай рабоце пажарных з небяспечнай зоны было эвакуіравана 5 чалавек.**

**Пажар быў ліквідаваны за гадзіну. Прычына высвятляецца. Адна з версій—кароткае замыканне.**

**Віталь ЦЫГАНКОЎ.**

## Пачалі красці з Крамлёўскай сцяны

**МАСКВА. У Аляксандраўскім садзе каля Крамлёўскай сцяны з мармуровай пліты горада-героя Смаленска выкрадзены дзве бронзавыя літары. Да гэтага з пліты Адэсы была выкрадзена Зорка горада-героя.**

## Грошы для сляпых

ШКЛОЎ. Мясцовы райвыканком разгледзеў хадайніцтва абласнога праўлення таварыства сляпых аб аказанні фінансавай дапамогі на ўтрыманне раённага таварыства сляпых. На гэтыя мэты выдзелена 10 тысяч рублёў.

## ЦЫГАРЭТЫ: ЗА ЦАНОЙ НЕ ПАСТАІМ

**Значнае павышэнне цэн на тытунёвыя вырабы айчыннай вытворчасці вымусіла многіх адмовіцца ад шкоднай звычкі, а тых, хто нядаўна курыў цыгарэты з фільтрам, задаволіцца папяросамі. Але ж у апошні час з паліц магазінаў амаль увогуле зніклі айчынныя тытунёвыя вырабы, іх практычна немагчыма набыць нават па талонах.**

Генеральны дырэктар гродзенскай тытунёвай фабрыкі «Нёман» Ігар Іосіфавіч Багдановіч запэўніў, што ў гэтым няма віны падначаленага яму прадпрыемства, што дзяржгандлю адпраўляецца дастатковая колькасць тытунёвых вырабаў. Знікненне цыгарэт з фільтрам звязана з тым, што з 21 жніўня з-за адсутнасці фільтраў спынены іх выпуск. На жаль, невядома, калі ён будзе адноўлены: адзінае ў былым Саюзе прадпрыемства, якое выпускае цыгарэтныя фільтры, знаходзіцца ў Арменіі, так што вывезці іх з-за вайны з Азербайджанам практычна немагчыма. А на набыццё фільтраў за мяжой у фабрыкі няма валюты.

З-за недахвату тытуню на гродзенскай фабрыцы скарацілася вытворчасць, і прадпрыемства працуе ў пяцідзесяціпрацэнтным рэжыме. І. І. Багдановіч паведаміў, што ў бліжэйшы час закупкі тытуню з Азербайджана, Малдовы, Сярэдняй Азіі не прадугледжаны. Гэта, безумоўна, адаб'ецца на аб'ёме выпуску тытунёвых вырабаў. Пастаўшчыкі прапануюць тытунь новага ўраджаю па 380—510 рублёў за кілаграм, у той час як за мінулагодні бралі па 140—180 рублёў, што, безумоўна, адаб'ецца на цане і, канешне, не ў бок яе змяншэння. Большасць абсталявання на фабрыцы зношана, не хапае магутнасцей, і нават каб яна працавала на ўсе сто, усё роўна не змагла б вырабіць патрэбнай колькасці цыгарэт і папярос.

**Алег ДУК.**

## ГРОМ ГРЫМІЦЬ, А МЫ ЎСЁ НЕ ХРЫСЦІМСЯ

Усе мы памятаем, як нядаўна наваполацкае вытворчае аб'яднанне «Палімір», атруціўшы Заходнюю Дзвіну, ужо ставіла наваколле на мяжу экалагічнай катастрофы. І вось— новае здарэнне. Днямі ў цэху № 201 (вытворчасць ацэтонцыянгідрыду) адбылася ўцечка сінільнай кіслаты. На шчасце, людзей у цэху не было (выхадны дзень), і ўцечку зафіксавалі прыборы. Усяго вылілася каля 2 літраў кіслаты. Нагадаем, што смяротная доза складае 1 міліграм. У ліквідацыі ўдзельнічала пяць пажарных машын. На гэты раз пранесла...

**Віталь АЛЕКСЯЕВІЧ.**

## ІНФАРМАЦЫЯ ДЛЯ РОЗДУМУ: ЖЫЛЛЁ

Кошт аднаго квадратнага метра жылля з дзяржаўных крыніц зараз складае на Беларусі 11.907 рублёў, аднаго месяца ў дзіцячым садку—30.104 рублі, а аднаго месяца ў школе — 32.909 рублёў за год. Такім чынам, нашы кватэрплаты і выдаткі бацькоў на ўтрыманне сваіх дзяцей здаюцца не такімі ўжо вялікімі ў параўнанні з выдаткамі дзяржавы.

**Выпуск «Розгаласа» падрыхтавалі: У. Здановіч, І. Карней, А. Коктыш, А. Сланеўскі, С. Сулкоўскі, І. Шчучэнка.**

# Ваша пісьмо атрымалі

## КОЛЬКІ Ж ВЯСКОЎЦАМ ЧАКАЦЬ?

**Наша чытачка У. Радкевіч ад імя жыхароў в. Краманіца Дзятлаўскага раёна звярнулася ў рэдакцыю, з пытаннем, які ўзровень радыяцыі ў іх вёсцы і чаму яна не ўключана ў зону забруджвання. У пісьме ішла таксама размова аб лёсе суседніх населеных пунктаў.**

**Начальнік Рэспубліканскага цэнтра радыяцыйнага кантролю і маніторынгу прыроднага асяроддзя І. МАЦВЕЕНКА** паведаміў, што Галоўнае ўпраўленне па гідраметэаралогіі РБ разгледзела гэта пісьмо. Паводле яго даных, на чэрвень сёлетняга года сярэдняе ўтрыманне ў глебе цэзію-137 на тэрыторыі в. Жыхі складала 1,46 Кі/км², Агароднікі — 1,15 і Краманіца — 0,74.

У Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь Галоўгідраметам адпраўлена пісьмо за № 38-185 ад 03.09.92 г. аб уключэнні в. Агароднікі ў зону забруджвання глебы цэзіем-137 ад 1 да 5 Кі/км².

Пытанне аб уключэнні в. Краманіца ў такую зону будзе вырашана станоўча пры ўмове, што Дзятлаўскі райвыканком вынесе рашэнне аб адміністрацыйным злучэнні вёсак Краманіца і Жыхі ў працэсе іх развіцця і выключэнні Краманіцы са спісаў статыстычнай справаздачнасці па Гродзенскай вобласці.

## КАЛІ СТАНЕ КЛУБ ЦАРКВОЙ?

**Жыхарка в. Благавічы Чавускага раёна Т. Барысенка напісала аб тым, што ў іх вёсцы ніяк не пабудуюць клуб і пад яго занята царква. А веруючыя хочуць вярнуць яе і мець свой храм.**

**Ці магчыма гэта?**

Сапраўды, гаворыцца ў адказе **старшыні савета па справах рэлігій пры выканкоме Магілёўскага абласнога Савета народных дэпутатаў І. САЎЧАНКІ,** у в. Благавічы Чавускага раёна ў 60-х гадах была закрыта праваслаўная царква. Яе сталі выкарыстоўваць як сельскі клуб. Веруючыя гэтай вёскі неаднаразова звярталіся ў розныя інстанцыі з просьбай вярнуць ім культавы будынак.

Выканком Чавускага райсавета шукае магчымасць размясціць сельскі клуб у іншым памяшканні і вярнуць веруючым культавы будынак. Праўда, шукае даволі доўга і выканком абласнога Савета народных дэпутатаў рэкамендуе раённай выканаўчай уладзе паскорыць вырашэнне гэтага пытання.

## СТУКНУЛІ ПА РУКАХ І АДРАМАНТАВАЛІ ДАХ

**Можна зразумець крыўду 80-гадовай пенсіянеркі Ю. Матэйка з в. Яськавічы Іўеўскага раёна, якая паскардзілася ў «Звязду», што няма каму адрамантаваць дах яе хаты.**

**Начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання Іўеўскага райвыканкома М. САЛЯНІК** даслаў кароценькае, але суцяшальнае паведамленне: «З улікам эканамічных магчымасцей выканком Лялюкінскага сельсавета і праўленне калгаса «Савецкая Беларусь» аказалі пенсіянерцы дапамогу ў набыцці руберойду і рамонце даху яе дома».

Зразумела, гэта добра. Але, скажыце, без скаргі ў газету нельга было так зрабіць?

## ЗНОЎ ГЭТЫ ТАЯМНІЧЫ «ГРАФ МОНТЭ-КРЫСТА»

**«Не разумею, навошта займацца пустой справай. Я маю на ўвазе збор макулатуры, за якую ніяк нельга атрымаць абяцанай кнігі», — такое абурэнне выказаў у сваім пісьме заўзяты аматар мастацкай літаратуры А. Рудак з Гродна.**

Дарэчы, такіх запытаў паступае ў рэдакцыю нямала, і тлумачэнне **намесніка старшыні праўлення Белкаапсаюза В. С. УЛАДЫКІ** будзе адказам усім ім.

А ён паведамляе:

— Дзяржкамдрук рэспублікі па рашэнню Савета Міністраў з 1982 года выпускаў для здатчыкаў макулатуры не менш як 500 тысяч экземпляраў кніг на паперы выдавецтваў.

У такім жа парадку ў 1990 годзе для іх планавалася выдаць кнігі «Граф Монтэ-Крыста» А. Дзюма — 200 тысяч і «Іван III гасудар усяе Русі» В. Язвінскага — 300 тысяч экземпляраў.

Аднак у сувязі з узнікшай сітуацыяй выдавецтвы паставілі перад Белкаапсаюзам невыканальныя ўмовы — пастаўку паперы і пераплётнага матэрыялу.

Пад гарантыйнае пісьмо Белкаапсаюза выдавецтва «Мастацкая літаратура выдала кнігу «Іван III гасудар усяе Русі», а выпуск кнігі «Граф Монтэ-Крыста» быў затрыманы з-за адсутнасці паперы.

Цяпер з малым прадпрыемствам «Ітэкс» заключаны дагавор на выданне гэтай кнігі. Цана яе будзе значна ніжэйшай, чым указана ў пісьме аўтара. Так што захоўвайце абанементы.

**Падрыхтаваў да друку аддзел пісьмаў «Звязды». (Тэлефон 32-04-52).**

## ЭКАНОМІМ НА КАПЕЙКУ, ГАРЫЦЬ НА МІЛЬЁНЫ

Мінулае лета надоўга запомніцца жыхарам рэспублікі. І не столькі празмернай гарачынёй, гэта хутка забываецца, колькі незлічонымі бедамі, якія прынесла засуха. Рэзка ўзрасла колькасць пажараў. Многія населеныя пункты апынуліся як бы ў вогненным коле: бязлітасная стыхія нішчыла жылыя дамы, надворныя пабудовы, гаспадарчыя аб'екты, хлебныя нівы, лясы.

Адна з прычын разгулу вогненнай стыхіі ў тым, што ў многіх будынках сцены, столь абліцоўваюцца лёгка ўзгаральнымі матэрыяламі. У сваю чаргу, што можа зрабіць дзяржаўны інспектар па пажарнаму нагляду ў гэтым плане? Аштрафаваць па выніках праверкі нядбайнага начальніка на 200 рублёў? Але што ж гэта за сума па нашым часе? Да таго ж, каб прыцягнуць вінаватага да штрафу ў 500 рублёў (згодна з дзеючым заканадаўствам), трэба адпаведныя дакументы пасылаць у Мінск на подпіс начальніку Дзяржаўнага ўпраўлення пажарнай аховы МУС Рэспублікі Беларусь. А каму патрэбны лішнія турботы?

Праўда, згодна з Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 29 красавіка 1990 года, у Крымінальным кодэксе за паўторнае парушэнне правіл пажарнай бяспекі прадугледжваецца больш жорсткае пакаранне: штраф 1.500 рублёў, звальненне з пасады ці да года папраўчых работ. Але і гэтыя меры (у параўнанні з тымі бедамі, якія выклікаюць парушэнні правіл пажарнай бяспекі) не надта суровыя.

Не на карысць справе таксама адсутнасць закона аб пажарнай ахове. Ці не таму на многіх прадпрыемствах з дзяржаўным інспектарам, нават калі ён у форме і з пасведчаннем, не вельмі лічацца. Пажарнаму інспектару часта даводзіцца ўдзельнічаць у расследаванні буйных здарэнняў, у тым ліку звязаных з крымінальным злачынствам, але мы не маем нават табельнай зброі. Узнікае законнае пытанне: каму мы наогул патрэбны?

Каб хоць крыху выправіць матэрыяльнае становішча пажарнікаў, аблвыканкомы і райвыканкомы прынялі рашэнні аб шэрагу платных паслуг і аб адлічэнні 0,5 працэнта ад кошту асноўных і абаротных сродкаў з прадпрыемстваў, МП, кааператываў у так званы фонд пажарнай бяспекі. Праўда, гэта нагадвае часам узаконены рэкет: плаціць МП у фонд пажарнай бяспекі абумоўленую суму — можна заплюшчыць вочы на тыя ці іншыя парушэнні, а не — тут ужо на поўную катушку.

Словам, трэба як след брацца за навядзенне належнага парадку ў арганізацыі пажарнай бяспекі. Нельга эканоміць на тым, што заўтра можа абярнуцца вялікай бядой. Няўжо мінулае лета з яго шматмільённымі стратамі ад пажараў так нічаму і не навучыла нас?

**В. ВЯДЗЮН, інспектар Дзяржаўнага пажарнага нагляду СВПЧ-4 г. Гомеля.**

## БЕСПРАЦОЎНЫЯ Ў ПРАВАХ РОЎНЫЯ?

**У службе занятасці насельніцтва Столінскага раёна на сённяшні дзень зарэгістравана 368 чалавек. 134 атрымалі статус беспрацоўных, а 59 з іх атрымліваюць дапамогу па беспрацоўю. Хто ж застаецца сёння без работы? У асноўным гэта звольненыя з прадпрыемстваў па скарачэнню штатаў — 152 чалавекі. Таксама шукаюць работу 33 былыя ваеннаслужачыя, звярнуліся ў службу занятасці і 10 выпускнікоў тэхнікумаў. А вось прапановы прыкласці свае сілы даволі сціплыя: або машыністам аўтакрана ў адну з арганізацый Століна, або рабочымі па добраўпарадкаванню горада...**

**БелаПАН.**

ЭКРАН БТ

# Чаму рэжысёр апладзіруе толькі ў думках

У той час як абодва расійскія каналы ўжо стогнуць ад вялікай колькасці разнастайных гульняў, на беларускім тэлевізійным небасхіле толькі нядаўна ўзышлі ўласныя «Пяць зорак». Рэдакцыя «Звязды» вырашыла вывучыць гэтую амаль незнаёмую беларускаму тэлебачанню з'яву. І вось што нам давялося высветліць.

«Пяць зорак» — гэта першая беларускамоўная гульня, арыентавана яна перш за ўсё на вывучэнне гісторыі і культуры Беларусі, але не толькі. Адна з апошніх гульняў была прысвечана 500-годдзю з дня адкрыцця Амерыкі. Ёсць у беларускай гульні штосьці і ад «Поля цудаў», і ад «Што? Дзе? Калі?», і ад марскога бою. Але, у адрозненне ад усіх расійскіх, «Пяць зорак» не з'яўляецца аналагам замежнай гульні.

**— Мы наўмысна з Мікалаем Кузняцовым імкнуліся вынайсці веласіпед. Гульню мы прыдумалі яшчэ ў час працы на радыё. Дакладней, прыдумаў я, а Мікалай дадаў адну рысу, якая зрабіла гульню больш цікавай.**

Не звяртайце ўвагі на залішнюю сціпласць Анатоля Вечара. Скажу вам па сакрэту, менавіта яго ўсе лічаць «ідэолагам» «Пяці зорак».

— Анатоль, і як, на ваш погляд, гульня атрымалася?

**— На працэнтаў трыццаць.**

— А як жа астатнія 70?

**— Яны ад нас не залежаць. Трэба шмат чаго ведаць, каб зрабіць гульню, пачынаючы з тэхнічных ведаў і заканчваючы агульнымі. Мы яшчэ дылетанты ў гэтай справе. А нам патрэбны прафесіяналы. А, па-другое, наша тэлебачанне (я ўжо не кажу пра свет, а толькі пра краіны СНД) самае жабрацкае. Мы атрымліваем на гульню 2 тысячы, у той час калі яна каштуе недзе тысяч сто. Спонсары ёсць спонсары. Першапачатковы ж капітал нам прыходзіцца выпрошваць на баку. Наогул, грошы — самы складаны момант у стварэнні гульні.**

Так, цяпер мне зразумела, чаму стваральнікі гульні такімі небяспечнымі лічаць разумных удзельнікаў, якія забіраюць з сабой тэлевізары. Але калі ўжо прыйдзецца, аддаюць прызы з задавальненнем, сумленна выконваючы правілы гульні (якія самі ж і прыдумалі). А яшчэ жавальныя гумкі бясплатна раздаюць.

Але ўсё ж такі мне дзіўна, як пры такім жабрацтве БТ (ды і не толькі яго) можна было адважыцца на стварэнне шоў-гульні? Зараз знойдзем самую буйную фігуру сярод рэжысёраў беларускага тэлебачання, у яе і запытаем. Знаёмцеся: Сяргей Шынкарэнка.

**— Магу адказаць вельмі проста. Калі б мы не імкнуліся нічога зрабіць, мы да гэтага часу хадзілі б у шкурах і жылі ў пячорах. Заўсёды ў чалавеку сядзіць жаданне кудынебудзь тузануцца: а раптам штосьці атрымаецца... нават з тым, што ў яго ёсць...**

А я думаю, чаго яны тут, у «Кроку», усе такія тузаныя... Усе імкнуцца да нечага новага. Але...

У студыі гульня выглядае, як прывабнае шоу. Па тэлевізары гэта ўжо больш сумна, не так прыгожа...

**— Галоўная прычына ў нашых тэхнічных магчымасцях. Мы не можам зараз канкураваць ні з адной расійскай гульнёй: яны бяруць сваёй прыгожай тэлевізійнай абгорткай, рэкламай. У іх ёсць магчымасць працаваць. Мы ж ствараем сваю гульню на тэхніцы 70-х гадоў. Аб чым тут можна гаварыць? Хоць у думках я нам і апладзірую, што пры такім становішчы мы адважваемся штосьці рабіць. Я ўжо паўгода нашуся з ідэяй камп'ютэрнай графікі.**

— Ну і як?

**— Мне пачынаюць тлумачыць, што гэта немагчыма таму, таму і таму.**

— Значыць, гледачам БТ нават і марыць нельга аб перадачах новай якасці?

**— Пакуль будзе гэта тэхніка, будзе такі ж узровень. Можа, трохі лепш, трохі горш. Але толькі трохі, бо ва ўсім свеце сёння тэлебачанне вырашана на аснове камп'ютэрнай графікі. Напэўна, і нашым кіраўніцтвам робяцца нейкія спробы, нешта купляецца. Але, ў рэшце рэшт, што б ні куплялася, вынік — на экране.**

Сапраўды. І вынік гэты сумны. Недастатковасць тэхнічных сродкаў, не кажучы ўжо пра іх састарэласць, бязлітасна абмяжоўвае творчы патэнцыял усіх, хто сёння спрабуе працаваць на беларускім тэлебачанні.

Але я ведаю, хто нас нарэшце суцешыць — вядучы гульні Алесь Кругляков. Ён заўсёды так ветліва ўсміхаецца, жартуе, тэлевізары дорыць.

— Алесь, ты азартны чалавек?

**— Безумоўна.**

— І не складана табе, азартнаму чалавеку, весці азартную гульню?

**— Складана ў тым плане, што ўсе тыя прызы, што стаяць у студыі, хочацца займець самому, а прыходзіцца аддаваць іншым людзям.**

— Нешта ты не ў тым плане азартны... У вашай гульні шанцуе больш удачлівым ці інтэлектуалам?

**— Наша гульня непрадказальная. Але, безумоўна, калі інтэлектуал будзе яшчэ тым чалавекам, якому шанцуе пры выбары зорак, то... То ён проста выйграе тэлевізар, як зрабіў наш удзельнік Леанід Клімовіч з Гомеля.**

— Пасля першых гульняў да вас, напэўна, прыйшла вялікая колькасць лістоў?

**— Можна было б чакаць і большага. Пакуль што пішуць нам адно і тое ж: прывітанне, трохі аб сабе, я хачу ўдзельнічаць у вашай гульні. Гэта першыя людзі, якія здолелі пераключыцца на нас з таго ж Лісцьева, убачылі наш першы блін. Ёсць і цікавыя рэчы. Напрыклад, нашы беларускія патрыёты пішуць, што яны наогул не пускалі б на гульню тых, хто не валодае беларускай мовай. Што ж, людзі бываюць розныя, розныя і меркаванні... Мы ж запрашаем на нашу гульню ўсіх жадаючых: і інтэлектуалаў, і ўдачлівых.**

Вось такая гульня. Вось такія сур'ёзныя людзі ў яе гуляюць. Яны бачаць усе яе хібы і хуткай славы не чакаюць. Бо лічаць, што «Пяці зоркам», як любой новай з'яве, складана адразу стаць дасканалай, і знайсці свайго гледача можна толькі з цягам часу. Але, на маю думку, з цягам часу можна і згубіць... Згубіць жаданне гуляць і ствараць.

**Вольга УЛЕВІЧ.**

